Галіна Каржанеўская
Мікола Яцкоў

# Я табе напішу...

Песні



*Мастак*
*Людміла Лобач*

**Каржанеўская, Г., Яцкоў, М.**
Я табе напішу... / Песні / Каржанеўская Г., Яцкоў М. – Брылі: Справа, 2013. - 26 с.

Вершы выдатнай беларускай паэтэсы Галіны Каржанеўскай перапоўнены высокімі пачуццямі, глыбокім лірычным настроем і яркай музычнасцю. Менавіта гэта і прыцягнула ўвагу беларускага кампазітара-песенніка Міколы Яцкова, які пачуў і занатаваў мелодыі гэтых непаўторных паэтычных радкоў.

# Я табе напішу...

Словы Галіны Каржанеўскай — Музыка Міколы Яцкова

♩ = 88

Am Dm
На-та-лі ма-ю пра-гу даб-ра, не-вя-

4 G C
ліч-кім ліс-том ад-гук-ні-ся, не ка-

6 Dm E7 F
ха-еш, дык хоць пры-тва-ры-ся, не пра-

8 Dm E7 Am
дасць ця-бе рос-чырк пя-ра, не ка-

10 Dm E7 F
ха-еш, дык хоць пры-тва-ры-ся, не пра-

12 Dm E7 Am
дасць ця-бе рос-чырк пя-ра.

**Наталі маю прагу дабра,**
**Невялічкім лістом адгукніся.**
**Не кахаеш, дык хоць прытварыся -**
**Не прадасць цябе росчырк пяра.**

**Як жа праўда? - спытаешся ты.**
**Я шаную яе і вітаю,**
**Ды мілейшым за праўду бывае**
**Міласерднасці воблік святы.**

**Разляцяцца злавесныя сны,**
**Падужэю і некалі, можа,**
**Я табе напішу: -- Мой харошы,**
**Вызваляю цябе ад маны.**

**Пашукай паміж многіх такой,**
**Каб ты мог у парыве аднойчы**
**Ўсё сказаць, не хаваючы вочы,**
**Ўсё пачуць, не збалеўшы душой.**



# Зірні мне ў вочы

Словы Галіны Каржанеўскай — Музыка Міколы Яцкова

♩ = 112

Dm Gm A7 Dm
Зір - ні мне ў во-чы, хо-піць жыць бя - гом, не

6 Gm C F Gm
у-ця-кай у дро-бя-зі, спы - ні-і - і - ся, і нам ад-дасць сва

11 A7 Dm Gm
ю пя-шчо-ту гро - о - о - ом, ла - год-на, па - ста -

15 A7 Dm Gm
рэ-чы сме - ю - чы - і - ся, і нам ад-дасць сва-

19 A7 Dm B
ю пя - шчо - ту гро - о - ом, ла -

22 Gm A7 Dm
год - на, па - ста - рэ - чы сме - ю - чы - ся.

**Зірні мне ў вочы.  Хопіць жыць бягом!**
**Не уцякай у дробязі.  Спыніся -**
**І нам аддасць сваю пяшчоту гром,**
**Лагодна,  па-старэчы смеючыся.**

**Зірні мне ў вочы.  Зразумей мяне -**
**І болей недавер не сцісне губ.**
**І нам пад ногі  лістапад сыпне**
**Бяроз і ліпаў хрусткую фальгу.**

**Зірні мне ў вочы  -  шчасце узышло.**
**Ускінь смялей збянтэжаныя веі  -**
**І нам аддасць апошняе цяпло**
**На момант падабрэўшая завея.**



# Мінулае

Словы Галіны Каржанеўскай

Музыка Міколы Яцкова

**Раманс** ♩ = 88

Мі - ну-ла - е мі - нец - ца і та - ды і -

4 нак-шай ста-ну я, зы - на-чыш-ся і ты, аб - сту-пяць лю-дзі ін-шы-я і

7 рэ - чы, і па-глы-не нас кос-мас ча-ла - ве - чы, па-

10 куль жа мы ні - бы двай-ны - я зор - кі, чый

12 лёс і за-хап-ля-ю-чы і гор-кі, від - ны у-сім ці-каў-ным на зям

15 лі, та - кі наш кон, та -

17 ко - е "сэ ля ві", та - ко - е "сэ ля ві".

**Мінулае мінецца - і тады**
**Інакшай стану я, зыначышся і ты.**
**Абступяць людзі іншыя і рэчы,**
**І паглыне нас космас чалавечы.**
**Пакуль жа мы - нібы двайныя зоркі,**
**Чый лёс і захапляючы, і горкі.**
**Відны усім цікаўным на зямлі...**
**Такі наш кон...**
**Такое “сэ дя ві”,**
**Такое “сэ ля ві”.**



# Што рабіць мне з чужою бядой...

Словы Галіны Каржанеўскай | Музыка Міколы Яцкова

**Tempo di valse**

Am E7 Am
Што ра - біць мне з чу - жо-ю бя-дой, бес-прас-

3 F A7 Dm
вет - най, як ноч, чар - на - той, тут, ба -

4 G C A7
дай, не па - мо - жа за - ко - он, тут не

5 Dm E7
жыт - ка, пры - то - е - ны скон. Тут за - //

6 2 купл. C A7 Dm E7
пац- ца, каб маг - ло а-чыш-чэн-не па - чац - ца. Тут за -

8 Am E7 Am A7 Dm
га-ны спля-лі-ся ў клу-бок, тут за-кры-та ду-ша на за-мок і за-

10 G C A7 Dm E7 Am
кі-ну-ты дзесь-ці клю- чы - ы, ты, сум-лен-не ма-ё, не маў-чы.

**Што рабіць мне з чужою бядой -**
**Беспрасветнай, як ноч, чарнатой?**
**Тут, бадай, не паможа закон,**
**Тут не жытка - прытоены скон.**

***П р ы п е ў :*** ***Тут заганы спляліся ў клубок,***
***Тут закрыта душа на замок***
***І закінуты дзесьці ключы...***
***Ты, сумленне маё, не маўчы!***

**Падкажы, што зрабіць і сказаць,**
**Каб глухую сцяну праламаць.**
**З кім мне раіцца, чым паступацца,**
**Каб магло ачышчэнне пачацца?**

***П р ы п е ў .***



# Вася - Васечка

Словы Галіны Каржанеўскай

Музыка Міколы Яцкова

12/8

A7 Dm
Не з ус-ме-ша-чак, не з жа дан-ня не-прык-

3 G C
мет-на пля-чо кра-нуць, па-чы-

4 F Dm
наец-ца з бо-лю ка-хан-не, з бо-лю,

5 E7 1 купл. A7 E7
што не пра-каўт-нуць. Ка-му

E7 2 купл. A7 E7
//кнец-ца ча-роў-ны круг. Ка-му

7 Am Dm G C
Ва-ся, прос-та Ва-ся, а мне Ва-сеч-ка, ка-му

9 F Dm E7 F
Ва-ся не-ха-ро-шы, а мне кра-сач-ка, ка-му

11 A7 Dm E7 Am
Ва-ся не-ха-ро-шы, а мне кра-сач-ка.

**Не з усмешачак, не з жадання**
**Непрыкметна плячо крануць, -**
**Пачынаецца з болю каханне,**
**З болю, што не пракаўтнуць.**

***П р ы п е ў :***   ***Каму Вася, проста Вася,***
***А мне Васечка.***
***Каму Вася нехарошы,***
***А мне красачка...***

**Так збіраецца з кропель хмара,**
**А са звенняў малых - ланцуг.**
**Стане бессанню боль і марай,**
**І замкнецца чароўны круг.**

***П р ы п е ў .***



# Цябе я страціла даўно...

Словы Галіны Каржанеўскай

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 84

Dm

Ця - бе я стра-ці-ла даў-

3 Gm A7

но і не заў-ва-жы-ла ад-

5 Dm B C

ра - зу, як пра-мі - ну-ла-ся я-

7 F Gm A7

но без вы-свят-лен-ня і ад-

9 D Gm A7 Dm

ка-зу, без вы-свят-лен-ня і ад - ка-зу.

**Цябе я страціла даўно**
**І не заўважыла адразу,**
**Як прамінулася яно**
**Без высвятлення і адказу.**

**Яно - як прывід, як прамень,**
**Як незвычайнае здарэнне,**
**Што аздабляла кожны дзень**
**І, мабыць, кожнае імгненне.**

**Цяпер не верым і не снім,**
**Якую ўдачу, шчасце мелі.**
**Былі мы лепшымі пры ім -**
**І так здрабнелі, так збяднелі.**



# Падаў снег

Словы Галіны Каржанеўскай

Музыка Міколы Яцкова

**Не хутка**

Dm A7 Dm
Па-даў снег пад нож-кі ве-раб'-і - ны-я,

3 C F
у - мяр - за - лі зор - кі у а - зё - о - ры,

5 B C F Dm
шы - бы раз - ма - лёў - ва - лі - ся і - не - ем,

7 Gm A7 Dm
гэ - та ўчо - ра, ўсё бы - ло у - чо - о - ра,

9 Gm C F Dm
шы - бы раз - ма - лёў - ва - лі - ся і - не - ем,

11 Gm A7 Dm
гэ - та ўчо - ра, ўсё бы - ло у - чо - ра.

**Падаў снег пад ножкі вераб'іныя,**
**Умярзалі зоркі у азёры,**
**Шыбы размалёўваліся інеем...**
**Гэта ўчора, ўсё было учора.**

**Дрэвы зелянінай запалалі,**
**Расцвілі цюльпаны і вясёлкі,**
**Сонца расцяклося над палямі...**
**Гэта сёння, гэта толькі сёння.**

**Яблыкі пападаюць у росы,**
**Журавы ваколіцу абудзяць,**
**Спусцяцца аблокі на пакосы...**
**Гэта заўтра, толькі заўтра будзе.**



# Ідзе зіма...

Словы Галіны Каржанеўскай

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 88

Dm C F

Кі - піць у не-бе пту-шак ча-ра - да: і -

4 B C F D

дзе зі - ма, зі - ма не за га - ра - мі, пад

6 Gm A7 Dm

бе - лы - мі у - лад - ны - мі ру - ка - мі за -

8 Gm A7 Dm D

сты - не неў - га - мон - на - я ва - да, пад

10 Gm A7 B

бе - лы - мі у - лад - ны - мі ру - ка - мі за -

12 Gm A7 Dm

сты - не неў - га - мон - на - я ва - да.

**Кіпіць у небе птушак чарада:**
**Ідзе зіма, зіма не за гарамі!**
**Пад белымі уладнымі рукамі**
**Застыне неўгамонная вада.**

**Чакаем маразоў, як дзеўкі свах.**
**Паэт сказаў: “ Люблю пахаладанне”.**
**І ўсё ж, калі яно настане,**
**Да батарэяўціснемся ў дамах.**

**Гусцее кроў і засынае дух,**
**Адчуўшы гіпнатычны позірк ночы.**
**Матулі нашы дзесьці паляць печы,**
**І неўпрыкмет жыцця вузее круг.**



# Вечаровае

Словы Галіны Каржанеўскай

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 100

Dm
Мы е - ха - лі доў - га вя -

3 Gm A7
чэр - нім прас-пек - там, бы - ло і хва - лю - ю - ча

5 Dm B
не - як, і смеш - на, прас - пек - там, наз - ва - ным у

7 Gm A7 Dm
го-нар па-э-та, мы е-ха-лі доў-га, бяс-кон-ца, ня-спеш-на.

10 Gm C F Gm A7 Dm
А - а - а, а - а - а. Мы //

14 Coda Gm C F Gm A7 Dm
А - а - а - а - а - а - а, мы

18 Gm A7 Dm
е - ха - лі доў - га вя - чэр - нім прас - пек - там.

**Мы ехалі доўга вячэрнім праспектам.**
**Было і хвалююча неяк і смешна.**
**Праспектам, названым у гонар паэта,**
**Мы ехалі доўга, бясконца, няспешна.**

**Мы ехалі. Гутарка ледзьве ліпела.**
**Мелодыя плаўная бегла з касеты.**
**Душа пажадала прыслухацца к целу**
**І тут жа сябе папракнула за гэта.**

**Агеньчыкі ў вокнах, і стрэчныя фары,**
**І позіркаў бляск, да пары прыхаваны.**
**Не надта знаёмая ехала пара.**
**Праспектам. Зімовай слізготай. Туманам.**

**Мы ехалі доўга вячэрнім праспектам...**



# Што трэба душы...

Словы Галіны Каржанеўскай

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 80

Am
Што трэ - ба тра - ве, каб я -

3 F
на а - жы - ла, зя -

4 Dm G
лё - най зра - бі - ла - ся, це - шы - ла

5 C Dm G
во - ка? Па - трэб - на ад - лі - га, і

7 Em A7 Dm Am
трош - кі цяп - ла, і про - мень, што доў - га блу-

9 Dm
каў між аб - ло - каў. Што //

10 Coda Dm E7 Am
ша ад - ка - за - лі.

**Што трэба траве, каб яна ажыла,
Зялёнай зрабілася, цешыла вока?
Патрэбна адліга, і трошкі цяпла,
І промень, што доўга блукаў між аблокаў.**

**Што трэба рацэ, каб яна пацякла
Раздольна, без лёдавай цяжкай апекі?
Патрэбна адліга і трошкі цяпла.
Чакаюць, чакаюць знямелыя рэкі...**

**Што трэба душы, каб у ёй не было
Зацятасці згубнае, вартае жалю?
Цяпло чалавечае. Толькі цяпло, -
Трава, і рака, і душа адказалі.**



# Змест







**Галіна Анатольеўна Каржанеўская** нарадзілася 27 жніўня 1950 г. у вёсцы Лясішча Слуцкага раёна Мінскай вобласці ў сям'і служачых. Да шасці гадоў гадавалася ў дзеда з бабай, Сцяпана і Марыі Каржанеўскіх, пакуль бацькі-аграномы не забралі яе ў Капыльскі раён.

У 1968 г. скончыла Янушкавіцкую сярэднюю школу Лагойскага раёна, паступіла на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. З трэцяга курса перавялася на завочнае аддзяленне і пачала настаўнічаць у Янушкавіцкай школе. Пасля заканчэння ўніверсітэта (1973) выкладала беларускую мову і літаратуру ў сярэдняй школе пасёлка Плешчаніцы Лагойскага раёна.

У 1980-1982 г.г. – рэдактар літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання. З 1984 г. – карэспандэнт аддзела прозы і паэзіі, з 1986 г. – загадчык аддзела крытыкі газеты «Літаратура і мастацтва». Сябра СП СССР з 1976 г.

З вершамі ў рэспубліканскім друку выступіла ў 1967 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «На мове шчасця», «Мой сад», «Званы гадоў», «Жыла-была», «Вечны водгук», кніжкі вершаў для дзяцей «На што падобна аблачынка» і «Сінічка на балконе». Напісала п'есы для дзяцей «Іван Світаннік» , «Шукайце кветку-папараць», а таксама п'есы «Зуб мудрасці» і «Мора, аддай пярсцёнак». Выступае і як крытык.



**Мікалай Адамавіч Яцкоў** нарадзіўся 22 мая 1959 г. ў Магілёве. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча імя Н.К.Крупскай, а потым Мінскі інстытут культуры. Служыў у войску. З 1981 г. працуе дырэктарам Брылёўскага сельскага Дома культуры Магілёўскага раёна.

Выдаў зборнікі вершаў «Кракаўскія сшыткі», «Хрышчацік», «Міколавы прыпеўкі», «Кола года». Перакладчык. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Актыўна выступае як кампазітар-песеннік. Напісаў больш за тысячу песен на вершы беларускіх паэтаў. Аўтар песенных зборнікаў "Гронка бэзу" (на вершы Т.Ляшонка), "Знічка" (на вершы І.Карэнды), «На вайсковыя матывы» (на вершы Я.Купалы), «Птушка залатая» (на вершы А.Куляшова) і інш.

Аўтар музыкі афіцыйна зацверджанага “Гімна Магілёва”.



На правах рукапісу
*Літаратурна-музычнае выданне*

Каржанеўская Галіна Анатольеўна
Яцкоў Мікалай Адамавіч

# **Я ТАБЕ НАПІШУ...**

*Песні*

Рэдактар - А.Яцкова
Мастак - Л.Лобач
Нотаграфія - Sibelius 6
Фармат 14,85x21. Гарнітура Georgia.
Папера афсетная. Друк HP Laser Jet P 2035
Выдавец і паліграфічнае выкананне




№ 90
9. 12. 2013 г.
213107 в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь
mikolabryl@gmail.com

